Ідзе падпіска на другую палову 2013 года. Не спазніцеся!

# Народная Воля

№ 44 (3785)

7 чэрвеня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі— чакаем!*

БЕЛАГРА-2013

## Каровам бялілі капыты і падмазвалі танальным крэмам вымя

*У межах 23-й спецыялізаванай выставы "Белагра-2013" прафесіяналы і простыя грамадзяне змогуць пабачыць, чым ганарыцца айчынная сельская гаспадарка.*



Самая буйная спецыялізаваная сельскагаспадарчая выстава ў краіне традыцыйна праходзіць на дзвюх пляцоўках — у Футбольнам манежы сталіцы і каля ўезду ў аграгарадок Сеніца. Менавіта там адбываюцца самыя цікавыя выставы: размешчаны стойлы жывёл, дэманструецца сельскагаспадарчая тэхніка. Вялікай папулярнасцю ў наведвальнікаў карыстаюцца стэнды з жывёламі. Жыхары мегаполіса з задавальненнем паказваюць дзецям вымытых кароў, чыстых бараваў і коней. Такіх на звычайнай ферме наўрад ці заўважыш. Напрыклад, рагулям да конкурсу "Дзень малочнай каровы" бялілі капыты і падмазвалі танальным крэмам вымя.

Каго дакладна не так проста сустрэць на звычайнай ферме, дык гэта страусаў, паўлінаў і вялізных трусоў бельгійскай пароды.

Але найбольшую цікавасць у наведвальнікаў "Белагра" выклікалі стэнды з таннай прадукцыяй. Куды танней, чым у краме, на сеніцкім полі можна набыць яйкі і курэй, мяса. Шмат рыбы і нават ласункаў. Доўжыцца выстава будзе да 9 чэрвеня.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**
**Фота аўтара.**

ТЭНДЭНЦЫЯ

## Долар пабіў рэкорд. Што далей?

*У мінулую сераду долар пабіў рэкорд, які трымаўся больш за паўтара года.*

5 чэрвеня на Беларускай валютна-фондавай біржы курс долара падняўся да максімальнага значэння за апошнія 655 дзён, а еўра вырас да максімальнага значэння за 3,5 месяца.

Курс долара ўзняўся да 8720 рублёў. Вышэй гэтай адзнакі курс амерыканскай валюты не падымаўся з 18 лістапада 2011 года, калі адзін долар ацэньвалі ў 8740 рублёў.

Праўда, учора курс долара знізіўся на 10 рублёў, затое еўра вырас яшчэ на 30 рублёў.

Што гэта? Звычайнае ваганне валютнага курса ці трывожны званочак для беларусаў? І якія прагнозы даюць эксперты на будучыню? З гэтымі пытаннямі "Народная Воля" звярнулася да фінансавага аналітыка афіцыйнага партнёра "Альпары" **Вадзіма ІОСУБА.**

— Нічога асабліва трывожнага ў гэтай сітуацыі я не бачу, — кажа эксперт. — Больш таго! Мяне, надварот, больш трывожыла тое, што долар не расце на беларускім рынку, бо ў апошні час індэкс долара ў адносінах да шасці валют сур'ёзна ўзмацніўся — прыкладна на 5 працэнтаў з пачатку года. Усё гэта выклікала пэўныя пытанні. Можа быць, у Беларусі штучна стрымліваецца рост амерыканскай валюты? Таму той факт, што зараз долар пабіў рэкорд, які трымаўся паўтара года, — абсалютна нармальная з'ява. Падстаў для панікі няма. Гэта пацвярджэнне таго, што на ўнутраным валютным рынку адлюстроўваюцца тыя ж тэндэнцыі, што і на знешнім.

**— Які ваш прагноз на гэты год?**

— Лічу, што штучна стрымліваць курс не будуць, і прадстаўнікі Нацыянальнага банка ў сваіх публічных заявах аб гэтым кажуць. Не выключаю, што працэнтаў на 10 курс можа вырасці да канца года. І гэта было б нават карысна для беларускай эканомікі, прастымулявала б экспарт.

**Алесь СІВЫ.**

ПОСЛЕ СКАНДАЛА

## Вернуло ли руководство Белорусского народного страхового пенсионного фонда «деньги и дивиденды, вложенные в особняки»?

Скандал, который случился на мартовском заседании Совета министров с участием Александра Лукашенко, наверное, помнят многие. Тогда глава государства фактически на всю страну обвинил руководство Белорусского народного страхового пенсионного фонда (БНСПФ) — директора **Ирину Гузовскую** и ее мужа, председателя наблюдательного совета фонда **Игоря Ковалева**, — в том, что они используют средства государственных предприятий в личных интересах, и поручил эти средства вернуть.

Схему, по которой руководство фонда якобы зарабатывало миллионы, озвучил на том заседании глава КГК Александр Якобсон: *"Значительные государственные средства направляются крупными предприятиями, такими как "Беларуськалий", "Брестэнерго", "Гродноэнерго" и другими, на добровольное страхование дополнительной пенсии. Эти средства государственных предприятий перечисляются частной страховой компании "Белорусский народный страховой пенсионный фонд", которая размещает их на депозитах в банках, а получаемые от этого доходы используют в личных интересах акционеры этого общества (директор и ее муж, а также некоторые другие коммерческие структуры)". "Так, средняя зарплата директора в 2012 году составляла 30 миллионов рублей, а полученные дивиденды супругов за год составили почти 3 миллиарда рублей",* — отметил председатель КГК. После чего Александр Лукашенко потребовал: *"Александр Серафимович (Якобсон), если вы не разберетесь, я разберусь с выводами для вас. Виноват Кириенко (генеральный директор ОАО "Беларуськалий". — **Прим. О.Г.**) — в тюрьму его! Виноват Жилин (председатель концерна "Белнефтехим". — **Прим. О.Г.**) — следом. Подчиненные — всех туда... Три миллиарда! Откуда эти деньги?! Они что, калийные удобрения производят и продают? Нет. И беспомощный Минфин! Возьмите на контроль, чтобы деньги эти, дивиденды, вложенные в особняки и прочее, были возвращены. Думаю, вы это решите в течение первого квартала".*

То есть на выполнение поручения отводился месяц. Сегодня уже июнь. Что сделано?

Увольнений и уголовной ответственности Жилин и Кириенко избежали. Уже в конце марта "Беларуськалий", "Брестэнерго", "Гродноэнерго" ушли из БНСПФ, перевели страхование дополнительных пенсий своих работников в государственную компанию "Стравита". Но эти три госпредприятия обеспечивали до 85% всех страховых взносов, которые собирал Белорусский народный страховой пенсионный фонд. Что, безусловно, не могло не сказаться на прибыли фонда. Если сравнить чистую прибыль БНСПФ за первый квартал 2012-го и текущего годов, то, по сведениям Минфина, она уменьшилась почти в семь раз — с 1,8 миллиарда до 281 миллиона рублей. Но фонд работает. Заработал и сайт фонда, который сразу после разгромного совещания с участием президента был фактически заблокирован. А сейчас, пожалуйста, открываются все разделы, в том числе и "Руководство".



Из этого раздела можно узнать, что директор фонда прежний — Ирина Гузовская. И ее муж Игорь Ковалев в той же должности. Но вернули ли они деньги, о которых говорил президент? В прессе писали, что в 2008 году эта пара приобрела две квартиры в престижном районе Минска, а также участок земли под Заславлем, на котором построила четырехъярусный коттедж, что по крайней мере до 2008 года Ковалеву, Гузовской и подконтрольной им компании "Спецпродмаш" принадлежали 70,1% акций.

Но связаться с ними попрежнему оказалось делом непростым — каждый раз, когда мы обращались в фонд, Ирина Гузовская либо отсутствовала, либо была занята. А Игорь Ковалев, пояснили в фонде, — председатель наблюдательного совета, но не сотрудник фонда, поэтому и не имеет рабочего места в офисе. Однако на наши вопросы согласилась ответить исполнительный директор Белорусского народного страхового пенсионного фонда **Елена Ленкевич:**

— Ситуация в фонде спокойная, все работает в прежнем режиме. Я отвечаю за свои слова... Со счетами все в порядке, с деньгами все в порядке.

**— То, что упали прибыли фонда, не сказывается на клиентах, не стало ли их меньше?**

— Падение прибыли — это было временное явление, пока шло разбирательство. Ушли государственные компании — это тоже сказалось на показателях. Но это временно.

**— Разбирательство после совещания у президента чем закончилось?**

— Все требования были исполнены в полном объеме. Поэтому сегодня мы работаем в нормальном рабочем режиме.

**— Руководство вернуло деньги, о которых говорил Александр Лукашенко? Дела уголовные были?**

— Такие комментарии я давать не берусь. Ирина Борисовна работает, все руководство прежнее, все в порядке. Если бы были какие-то уголовные дела, то об этом, думаю, знали бы все и интервью вряд ли давали бы.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ЭКАНОМІКА

## Экспарт упаў у тры тысячы разоў!

У студзені—красавіку гэтага года Беларусь скараціла экспарт растваральнікаў і разбавіцеляў больш як у тры тысячы разоў у параўнанні з аналагічным леташнім перыядам. Разам са зніжэннем аб'ёмаў экспарту беларускіх растваральнікаў і разбавіцеляў узрасла іх сярэдняя цана. Калі ў студзені—красавіку 2012 года сярэдняя цана тоны гэтай прадукцыі складала 902 долары, то ў студзені—красавіку гэтага года — 1236 долараў. Але ж зразумела, што ў такой сітуацыі і павышэнне цаны не верне тых грошай, якія Беларусь мела ад растваральна-разбавіцельнага бізнесу.

Як вядома, у мінулым годзе расійскі бок абвінаваціў Беларусь у тым, што яна стала пастаўляць нафтапрадукты на знешнія рынкі пад выглядам растваральнікаў і разбавіцеляў, што дазваляла не выплачваць пошліны ў расійскі бюджэт (страты ацэньвалі ў 1,5 млрд долараў). У красавіку гэтага года расійскі пасол паведаміў БелаПАН, што пралазы ў заканадаўстве, якія дазвалялі Беларусі ў 2012 годзе ажыццяўляць "растваральна-разбавіцельныя схемы", ліквідаваны. *"Нам важна было закрыць пралаз у заканадаўстве, які дазваляў ажыццяўляць вядомыя растваральна-разбавіцельныя схемы. І гэта зроблена — са згоды казахстанскага, беларускага і расійскага бакоў",* — падкрэсліў расійскі дыпламат.

ПРЭЗІДЭНТ-ГАТЭЛЬ

## Мікалай ЖУРАЎСКІ: «У нумары за 2400 долараў жылі пяць дзён...»

*Прайшоў месяц, як у Мінску адкрыўся пяцізоркавы "Прэзідэнт-гатэль".*

Як вядома, гэты самы шыкоўны гатэль у Беларусі ўрачыста адкрылі 3 мая. Найтаннейшы нумар каштуе тут 330 долараў у суткі, самы дарагі — прэзідэнцкі сюіт — 2400 долараў. Колькі ж пастаяльцаў пабывала ў гасцініцы за месяц? І ці карыстаецца попытам нумар, які каштуе каля 21 мільёна рублёў у суткі? З гэтымі пытаннямі мы звярнуліся да дырэктара РУП "Гатэль "Мінск", у падначаленні якога і знаходзіцца новая гасцініца, **Мікалая ЖУРАЎСКАГА.**

— За май загрузка гатэля склала 14 працэнтаў, — распавядае Мікалай Раманавіч. — За першыя дні чэрвеня — ужо 35 працэнтаў. Для пачатку работы гэта нармальныя лічбы.

**— Калі казаць пра прэзідэнцкі нумар...**

— Пяць дзён у ім жылі, хоць людзей, якія здымалі дарагія апартаменты, рассакрэчваць мы не маем права.

**— Думаеце, што гатэль будзе акупляцца?**

— Сёння, каб гатэль акупляўся, неабходна, каб ён запаўняўся на 50—60 працэнтаў. Па горадзе сярэдняя загрузка — у межах 75 працэнтаў. І я вам скажу: у Мінску любая гасцініца самаакупляецца, калі ёй кіруе добры гаспадар. Нам жа пакуль яшчэ трэба час, каб выплаціць крэдыт... Дарэчы, гасцініца "Мінск" выйшла на самаакупнасць ужо на другі месяц работы.

**Алесь СІВЫ.**

## Стаўка рэфінансавання зноў знізіцца

*Нацыянальны банк Беларусі з 10 чэрвеня зніжае стаўку рэфінансавання на 1,5 працэнтнага пункта да 23,5% гадавых.*

Нагадаем, што апошні раз стаўка рэфінансавання ў краіне зніжалася 15 мая гэтага года. Тады яна зменшылася на два працэнтныя пункты і склала 25 працэнтаў. Нацбанк планue на канец 2013 г. устанавіць стаўку рэфінансавання на ўзроўні 13—15% гадавых.

Зніжэнне стаўкі выгадна ў першую чаргу тым, хто збіраецца браць крэдыты. А вось для ўкладчыкаў, грошы якіх знаходзяцца на дэпазітах, навіна не вельмі добрая. Пасля зніжэння стаўкі рэфінансавання банкі звычайна таксама зніжаюць працэнтныя стаўкі па ўкладах.

**Сяргей ЗАПОЛЬСКІ.**

ПО ПОВОДУ

*Мария ЭЙСМОНТ*

## Лечить страхом и рублём!



Для чего пишутся законы? Много ли белорусов их читают и знают, как применить на практике? У нас даже не все юристы ориентируются в законодательстве. Потому что законов и всевозможных подзаконных актов огромное количество. Депутаты всех созывов что-то принимают, вносят поправки, дополнения. Изображают бурную деятельность, наверное, чтобы показать — 10 миллионов зарплаты им дают не просто так.

Но я сейчас не об этом. Если законы существуют, значит, они должны применяться на практике. Особенно те, которые писались для того, чтобы сделать нашу обыденную жизнь комфортной, оградить нас от курильщиков, пьяных водителей, от собак бойцовских пород (или их владельцев?), и т.д. и т.п.

И что мы имеем на самом деле?

В последние годы в Беларуси принято немало документов, направленных на борьбу с курением. Недавно вот о них вспоминали, в мире отмечался День без табака. Что похвально — сконцентрированы они не на вреде курения вообще, а на вреде пассивного курения в частности. Например, декретом президента, подписанным в 2002-м и дополненным в 2005 году, запрещено курить в общественных местах. Еще в 1999 году было принято специальное постановление Совмина, которым запрещалось курение в подъездах, подвалах, на чердаках. Но людей с сигаретой в руках на лестничных площадках меньше не становилось. В 2007 году для нарушителей этих правил определили меру наказания: штраф в размере от 10 до 30 базовых величин. Сегодня это немалые деньги, для кого-то 1—3 миллиона — месячная зарплата.

Но многие ли белорусы знают о том, что по закону дымящего в подъезде соседа можно наказать административным штрафом? Более того — имеют ли представление о том, как это сделать на практике?

За все эти более чем пять с половиной лет в столице за курение в подъезде был оштрафован только один (!) минчанин. Хотя в любом доме сегодня найдется подъезд, где открыто стоят банки для окурков, где лестничные площадки временно становятся курилками. И что самое смешное: жильцы прекрасно знают этих курильщиков, ведь под нашу дверь не едут дымить с другого конца города, отравляют дымом соседи.

Но чтобы наказать курильщика штрафом, его надо взять с поличным. Причем не самому, а успеть вызвать сотрудников ЖЭСа или милицию — только они могут составить административный протокол. Кто этим будет заниматься? Никто. Во-первых, многие расценивают эту процедуру как донос и портить отношения с соседями не хотят. Во-вторых, и это главное, применение такого наказания — дело нереальное. Потому что курит человек минуту-две, а сколько времени уйдет, чтобы дозвониться в ЖЭС и главное — прибыть на место жэсовскому сотруднику? Что, у него других дел нет?!

Зачем тогда эти правила прописали? Как говорят в народе, для галочки. И не надо говорить, что курение в подъездах неискоренимо, что дело не в законах, а в нас самих. Ничего подобного. Отучить белорусов легко можно от всего. И рецепт прост: лечить страхом и рублем. Именно так нас "вылечили" от массовых протестов, шествий, от нормальных дискуссий, отстаивания своей точки зрения.

Вот знали бы мы, что в любой момент в подъезд может нагрянуть жэсовский рейд или милиция, и штраф впаяют не 3 миллиона, а 30 — и все, с проблемой справились бы. Именно так, к слову, раз и навсегда решили вопрос с курильщиками, пьяными водителями, недисциплинированными пешеходами в Сингапуре, куда перенимать опыт не так давно ездила представительная белорусская делегация во главе с Александром Лукашенко.

Но курильщик — не оппозиционер, угрозы власти не представляет, поэтому можно оставить все, как есть. Удивительно еще, как наши законотворцы решились на принятие закона о запрете курения в ресторанах и поездах, он сейчас готовится к первому чтению в парламенте. Хотя не удивлюсь, если поговорят-поговорят, а когда дело дойдет до решений — выйдет пшик. Могут и сами курильщики возмутиться, и владельцы ресторанов пойти в наступление: упадут прибыли. И к их мнению парламентарии прислушаются: игнорировать можно только возмущения простых людей и, экономя бюджетные деньги, не стесняясь принимать законы, лишающие льгот пенсионеров и больных людей.

А помните, как было с законом "Об обращении с животными"? Два года его обсуждали, приняли в первом чтении, а потом — отозвали. Парламентарии прислушались к зоозащитникам, которые назвали законопроект жестоким и антигуманным по отношению к животным. Но что в нем было антигуманного?! То, что в квартире нельзя иметь более двух собак, что, прежде чем купить потенциально опасную собаку, ее будущий владелец должен пройти обучение в кинологическом центре и взять справку, что он не алкоголик и не наркоман? Что всех собак следует зарегистрировать и тогда хозяевам не так просто будет избавиться от надоевшего животного? Что численность бездомных четвероногих будут регулировать отловом? Может быть, наконец-то в Беларуси был бы принят закон, который одобрило бы подавляющее большинство. Потому что браконьерство в заповедниках и уничтожение бездомных собак в городах — это не одно и то же. Первое — действительно жестокость, второе — необходимость, связанная с безопасностью человека. Как, впрочем, и курсы для владельцев собак бойцовских пород — это тоже наша безопасность. Потому что иметь такую собаку модно, а вот как ее воспитывать, знают единицы. А потом мы читаем жуткие истории, подобные той, которая случилась недавно в Минской области, когда владелец спустил ротвейлера с поводка, и собака, на которой не было намордника, укусила 18-летнюю девушку за лицо, прокусив нос и откусив часть губы. Владельца, может, и накажут большим штрафом или даже колонией, но новая губа у девушки не вырастет!

Закон, который мог бы защитить нас от таких владельцев собак, отозван, и не ясно, когда депутаты к нему вернутся. А для галочки у нас припасено постановление Совмина, которое запрещает и выгул собак без намордника, и их содержание в квартире без регистрации. И даже штрафы предусмотрены, в некоторых случаях до 1 миллиона рублей. Но как выгуливали собак без намордников, так и выгуливают, как бегали и кусали людей бездомные собаки, так бегают и кусают.

И как долго мы еще так жить будем: народ — сам по себе, власть — сама по себе, законы — сами по себе?

ГАЗЕТА ВЫСТУПІЛА...

# Журналісцкае слова — не ў паравозны свісток,

*альбо Сказ пра тое, чым скончылася "маленькая вайна" 87-гадовай удавы ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Ганны Панамаровай з беларускай чыноўніцка-бюракратычнай машынай*



Скажу наперад: скончылася нетыпова для нашага часу — поўным "хэпі эндам". Нетыпова, бо ў маім рабочым стале з дзясятак пісем-гісторый ад "маленькіх людзей" з гэткімі ж праблемамі (ці падобнымі), якія абрынуліся ў свой час і на Ганну Пятроўну Панамарову. У лістах-споведзях — людскі боль, адчай, просьба дапамагчы. Многія, прайшоўшы ўсе кругі бюракратычнага пекла, апошнюю надзею ўскладваюць на... "Народную Волю". Але ці варта здзіўляцца?.. Людзі месяцамі, гадамі вядуць няроўны бой за свае правы, за сваю годнасць, за праўду і справядлівасць, але ніякага выніку: чыноўніцкая "вертыкаль" з усімі медыя-падпоркамі, як тая мафія, непераможная, усюдыісная, вечная... Ды вось жа прэцэдэнт — хэпі энд, і без усялякага там двукосся.

Тэлефонны званок, знаёмы голас на другім канцы провада: "Прыедзьце, даражэнькі Георгій, калі ласка, у Лясны пасёлак (гэта на мяжы з Бараўлянамі пад Мінскам. — **Аўт.**), падзівіцеся, якая цяпер у нас з сынам харошая кватэра — прасторная, светлая, адрамантаваная..." Зразумела, еду. Ну калі такое ў наш час здаралася, каб журналісцкае слова — ды не ў "паравозны свісток"?! Але караценька пра сутнасць усёй гэтай гісторыі...

12 лютага (пасля журналісцкага расследавання) у "НВ" быў надрукаваны артыкул "Калі вушы — глухія, а душы — гнілыя...". Размова ішла пра незайздросны лёс удавы ветэрана вайны, якая знямоглася трываць чыноўніцкі здзек і гатова была ўжо кінуцца пад колы цягніка — балазе тыя цягнікі праносіліся пад самымі вокнамі яе барака. А ўсё чаму? Улады, прычым на ўсіх паверхах — ад прэзідэнцкай Адміністрацыі да сельвыканкама, цягнулі валынку з прадастаўленнем ветэранскай сям'і ну хоць якой прыдатнай для жыцця кватэры... Патыхала не толькі чыноўніцкім фармалізмам, абыякавасцю да маленькага чалавека, але і цынізмам. Складвалася ўражанне, што дзяржфункцыянеры сфакусаваны на адным: праблема вырашыцца сама сабою... *"Мусіць, так*, — пагаджалася тады і Ганна Пятроўна, гаспадыня той самай кватэры-халабуды, якая даўно не адпавядала ніякім санітарным і тэхнічным патрабаванням і афіцыйна была прызнана непрыгоднай для пражывання, — *спадзяюцца, што ўсе мы хутка памром і пытанне адпадзе. Проста нікому з тых начальнікаў, да якіх я звярталася з просьбамі-хадайніцтвамі, няма да галоты ніякай справы — ні таму ж "губернатару"* ***Барысу Батуру****, ні яго намесніку* ***А.Мірчуку,*** *ні пракурору* ***А.Канюку****, ні тагачаснаму дзяржкантралёру* ***У.Цыдзіку,*** *ні міністру МНС* ***Уладзіміру Вашчанку****, ні старшыні Цэнтрвыбаркама* ***Лідзіі Ярмошынай****, ні ўсім астатнім..."*



Памятаю, пад канец нашай сустрэчы запытаў жанчыну: "І што будзе, Ганна Пятроўна, як будзеце жыць далей, у каго возьмеце рады падмогі?" Яна адказала: *"А якое жыццё, калі — натуральны Асвенцым, самі бачыце... Іншы раз думаю: за што мне такое гора, за што пакуты? Жыла сумленна, лепшыя гады аддала чыгунцы — маёй дыстанцыі пуці... Гэтаксама і нябожчык-муж: усю вайну прайшоў на сваім танку, потым працаваў на чыгунцы, меў ад кіраўніцтва граматы... Да самай смерці чакаў паляпшэння жыллёвых умоў. І што?! Сканаў у гэтым хляве, не дачакаўшыся... Па ўсім і мяне такое чакае, і ўсіх нас, хто тут гора мыкае. Вунь сусед-чыгуначнік памёр, яшчэ адна суседка злегла ў бальніцу — у яе адкрытая форма туберкулёзу.... Дык ці варта мучыцца? Можа, плюнуць на ўсё ды пакласці галаву на рэйкі?.."*

Пасля выхаду артыкула жыццё Ганны Пятроўны змянілася.

...Пасёлак Лясны, дом №7, кватэра 48... І на парозе яна — Ганна Пятроўна — зусім не тая, што сустракала мяне ўзімку ў той ненавіснай счарнела-замызганай, халоднай, няўтульнай халабудзе. Цяпер — прасветленая, вочы іскрынкамі, голас напоўнены радасцю. Паказвае свае харомы: два спальныя пакойчыкі, гасцiную-святліцу, кухню... "Прачынаюся, — кажа, — і душа спявае... У адзін пакой зазірну, у другі — якое шчасце мець усё гэта! Колькі там жыць, але ж хоць сын-небарака пажыве ў святле ды цяпле... Дзякуй вам і тым людзям, што нарэшце ўнiклі ў маё гора, падмаглі..."

Слухаю Ганну Пятроўну, а яна — як дзіця малое — усё радуецца-радуецца. Пытаюся, хто ж канкрэтна прыйшоў ды ўсё адразу вырашыў... "Пасля вашага артыкула, — ледзь не са слязамі на вачах распавядае жанчына, — літаральна праз тры дні прыехалі з раёна, кажуць: паедземце, пакажам вам вашу новую кватэру. І напраўду, пасадзілі ў машыну і прывезлі, паказалі. Спачатку думала, што дурацъ, але ўсё папраўдзе... А недзе перад Днём Перамогі перавезлі ўжо і транты. Ведаеце, перавозіць асабліва не было чаго: бялізна ўся згніла — бо там жа сырасць несусветная, а мэбля — яе толькі ў печку на распал... Але во родзічы купілі дыван харошы, стол, кухню — дзякуй ім..."

Мы доўга гаманілі... Напаследак фатаграфую 87-гадовую шчаслівіцу, мы развітваемся. Стаўлю кропку ў гэтай гісторыі, а сам узіраюся ў дзве фатаграфіі. На абедзвюх — адзін і той жа твар, а ўражанне, што гэта дзве розныя жанчыны: адна змарнелая і прыбітая горам, другая — шчаслівейшая са шчаслівых... Вось і думай: колькі трэба чалавеку для сапраўднага шчасця?..

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

КРОПКІ НАД «І»

## *Расійская авіябаза ў Беларусі будзе*

Гэтае пытанне, мяркуючы па ўсім, вырашана. У Беларусь прыехала група расійскіх рэкагнасцыроўшчыкаў на чале з галоўнакамандуючым ВПС Расіі, якая зоймецца падборам аэрадрома для базіравання расійскай авіяцыйнай базы. Паводле слоў міністра абароны Расіі Сяргея Шайгу, ужо сёлета ў Беларусі можа з'явіцца расійская авіяцыйная камендатура і ў хуткім часе — першыя самалёты, "якія будуць састаўной часткай расійскай авіяцыйнай базы". Ён зазначыў, што дасягнутыя дамоўленасці паміж прэзідэнтамі дзвюх краін у сферы ваеннага супрацоўніцтва выконваюцца, "не адбылося ніякіх кардынальных змен, што выклікала б трывогу ў нас і нашых беларускіх калег".

Гэта значыць, што да выступленняў вядомых экспертаў, юрыстаў, ваенных, якія сцвярджалі, што такія дзеянні супярэчаць беларускай Канстытуцыі, ніхто не прыслухаўся. І ўжо праз два гады на тэрыторыі Беларусі будзе размешчаны расійскі авіяцыйны полк, а таксама распачнуцца пастаўкі чатырох дывізіёнаў зенітных ракетных комплексаў С-300.

ЧУЛІ?

## *Аўтапарк ДАІ абновяць на 90%*

Як патлумачыла кіраўнік прэсслужбы Дзяржаўтаінспекцыі галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкама **Таццяна Харлінская,** аўтапарк ДАІ абнаўляюць да чэмпіянату свету па хакеі.

У цяперашні час ужо набыта 67 машын маркі Skoda. Як адзначыла Таццяна Харлінская, "гэтыя машыны больш магутныя, манеўраныя і дапамагаюць яшчэ больш актыўна змагацца з парушальнікамі правілаў дарожнага руху".

## *Відовішча па дазволе*

Культурна-відовішчныя мерапрыемствы ў Беларусі будуць праводзіцца толькі з дазволу ідэолагаў. Гэта прадугледжвае ўказ №257, які днямі падпісаў Аляксандр Лукашэнка.

Указам прадугледжваецца, што арганізатар абавязаны атрымаць пасведчанне на права арганізацыі і правядзення культурна-відовішчнага мерапрыемства на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь (гастрольнае пасведчанне) ва ўпраўленні ідэалагічнай работы, культуры і спраў моладзі аблвыканкама або Мінскага гарвыканкама. На мерапрыемствы з удзелам беларускіх выканаўцаў гастрольнае пасведчанне будзе выдавацца бясплатна.

На мерапрыемства з удзелам беларускіх і замежных альбо выключна замежных выканаўцаў гастрольнае пасведчанне выдаецца з выплатай дзяржаўнага збору ў спецыяльны фонд прэзідэнта па падтрымцы таленавітай моладзі.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Ці патаннелі летам вітаміны?

*Карэспандэнт "Народнай Волі" пацікавіўся цэнамі на садавіну і гародніну ў Мінску на пачатку чэрвеня.*

Як правіла, летам зніжаюцца цэны на садавіну і гародніну, і людзі не шкадуюць грошай на вітаміны. Але і рублі народ падлічвае. Тавар стараецца набыць больш якасны і менш дарагі.

Камароўскі рынак нават у будні дзень гудзе, нібыта пчаліны рой. Ужо на ўваходзе — чэргі да прадаўца, які прадае агуркі па 7500 рублёў за кілаграм.

Гандляры памідораў, чарэшні, клубніц таксама не сумуюць. Што цікава — кошты адрозніваюцца на адну і тую ж прадукцыю ў разы. Напрыклад, чарэшню з Узбекістана можна набыць за 65 тысяч за кіло, а ёсць і малдаўская — па 20 тысяч.

— Я б такую чарэшню свайму дзіцяці ніколі не ўзяла б, — тлумачыць мне гандлярка, у якой ягады дарагія. — Некандыцыя, для самых бедных слаёў насельніцтва. Але і такіх шмат. Якая-небудзь бабулька таксама хоча пакаштаваць чарэшні, і яна возьме танныя ягады. Нават калі яны і падгнілі. Камароўка таму і вабіць многіх, што тут багаты выбар на любы густ. І па тавары, і па цэнах.

Клубніцы таксама можна набыць і за 28 тысяч за кілаграм, і за 48. Тыя, што таннейшыя, — у пяску. Больш буйныя і чыстыя — даражэйшыя. Мне распавядаюць, што толькі гэтымі днямі пачалі прывозіць беларускія клубніцы. А раней замежныя ягады некаторыя пазначалі як айчынныя. Так, маўляў, лепш бяруць.

Дарэчы, "клубнічная Камароўка" знаходзіцца ў вёсцы Дварэц Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. Кошты на ягады толькі за апошнія дні там знізіліся з 20 да 15 тысяч за кілаграм. Туды і прыязджаюць прадпрымальнікі на машынах, бяруць клубніцы оптам, а затым прадаюць у тым жа Мінску ў два-тры разы даражэй.

— За першыя летнія дні цэны знізіліся, — расказваюць гандляры на рынку. — Больш за ўсё, напэўна, на агуркі... Кожны дзень пакрысе нешта таннее. Але самыя нізкія цэны будуць у канцы ліпеня. Раней і не чакайце.

Пасля Камароўскага рынку я вырашыў наведаць адзін са сталічных гіпермаркетаў і паглядзець на кошты на садавіну і гародніну ў вулічным кіёску. Мяркуйце самі...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

| Назва тавара | Камароўскі рынак | Гіпермаркет | Вулічны кіёск |
|---|---|---|---|
| Памідоры | 16.900—18.000 | 17.650—23.850 | 18.500—26.900 |
| Перац | 43.900—45.00 | 52.350—66.650 | 55.000 |
| Агуркі | 7.000—10.000 | 10.250—12.100 | 12.500—15.900 |
| Капуста | 10.500 | 9.250 | 15.900 |
| Яблыкі | 10.000—13.000 | 13.800—31.200 | 16.500 |
| Радыска | 9.900 | 33.150 | Не было |
| Клубніцы | 28.000—48.000 | Не было | 35.000—65.000 |
| Апельсіны | 13.000 | 13.700—17.700 | 19.900 |
| Чарэшня | 20.000—55.000 | Не было | 40.000—85.000 |
| Кроп | 6000 (100 г) | 9150 (50 г) | Не было |
| Зялёная цыбуля | 3000 (100 г) | 9400 (70 г) | Не было |

** Цэны пазначаны ў рублях за кілаграм.*



ДАРЭЧЫ

## *Узровень цэн на раннюю агародніну ў Беларусі вышэйшы, чым у сумежных краінах*

*Аб гэтым, спаслаўшыся на інфармацыю МЗС, паведаміў міністр гандлю Беларусі* ***Валянцін Чэканаў*** *на пасяджэнні прэзідыума Саўміна, перадае прэс-служба ўрада.*

Так, на 23 мая максімальныя рознічныя цэны ў Беларусі на свежыя агуркі былі вышэйшыя на 44%, чым ва Украіне, на 11%, чым у Латвіі, на 47%, чым у Польшчы. Кошт зялёных культур у Беларусі вышэйшы, чым ва Украіне, Латвіі, Польшчы на 32—82%.

Міністр прапанаваў для павышэння канкурэнтаздольнасці айчыннай ранняй агародніны правесці аналіз складу затрат пры фарміраванні адпускных цэн, а таксама знізіць выдаткі, паведамляе БелаПАН.

У першым квартале павялічыўся імпарт таматаў і агуркоў у 2,8 раза і ў 2,4 раза адпаведна. Пры гэтым цэны на таматы беларускай вытворчасці перавышалі цэны на імпартныя, заўважыў міністр. Ён удакладніў, што розніца ў цэнах на айчынную і імпартную прадукцыю не звязана з гандлёвай надбаўкай. Аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам устанавілі гранічныя гандлёвыя надбаўкі на агуркі, таматы, бульбу, капусту, цыбулю, буракі, яблыкі, бананы, лімоны, апельсіны ў сярэднім 23—25%. На астатнюю прадукцыю цэны ўстанаўліваюцца ў адпаведнасці з кан'юнктурай рынку, і гандлёвая надбаўка там не перавышае 30%.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *Будзе смяротны прысуд?*

*У Гомельскім абласным судзе заканчваецца судовы працэс па крымінальнай справе аб жорсткім забойстве 22-гадовай студэнткі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта Наталлі Емяльянчыкавай.*

...Каля паўночы 9 верасня мінулага года Наталля вярталася дадому. Каля пад'езда на яе з нажом напаў мужчына. Як устанавіла экспертыза, пацярпелая памерла ад масіўнай кровастраты, ёй былі нанесены 102 нажавыя раненні ў галаву, грудзі, шыю, рукі і ногі. Былі таксама зафіксаваны пераломы рэбраў.

Ужо на наступны дзень быў затрыманы падазроны — 24-гадовы мясцовы жыхар, раней судзімы за нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, якія прывялі да смерці. Яшчэ падлеткам ён забіў сужыцеля сваёй маці.

Прычыну забойства дзяўчыны малады чалавек патлумачыў проста: "Можа, пасварыліся з-за песні". Падчас следства ён распавёў, што неяк апынуўся з забітай у адной кампаніі, тая нядобра да яго ставілася, абражала яго. Ён затаіў крыўду і, калі праз некалькі месяцаў выпадкова сустрэў дзяўчыну ў аўтобусе, учыніў над ёй расправу. Ён ведаў, дзе яна жыве, так як быў знаёмы з яе братам, таму выйшаў з аўтобуса за адзін прыпынак і пабег праз двары да яе дома. Ён дачакаўся дзяўчыну ля пад'езда, а затым накінуўся на яе з нажом...

Гэты судовы працэс ідзе са студзеня. Аднавіліся слуханні нядаўна, пасля правядзення дадатковай псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы абвінавачанага. Па яе выніках хлопец прызнаны адэкватным, здольным да самакантролю, ён мог усведамляць грамадска небяспечны характар сваіх дзеянняў і не знаходзіўся ў стане афекту ў момант здзяйснення забойства.



**Абвінавачаны ў жорсткім забойстве.**



**Наталля збіралася пабрацца шлюбам пасля заканчэння ўніверсітэта.**

Залежнасцяў ад алкаголю і наркотыкаў у абвінавачанага не выяўлена. Аднак ён пакутуе на змешанае расстройства асобы.

Пракурор у судовым пасяджэнні заявіла, што дадзенае забойства шакіруе сваёй жорсткасцю, віна абвінавачанага даказана цалкам, а ў справе няма змякчальных абставін. "Яўка з павіннай не можа быць прызнана змякчальнай акалічнасцю, бо была зроблена пасля таго, як міліцыя прапанавала падазронаму праехаць у аддзел, і тады ён ужо прызнаўся. Абцяжарваючыя абставіны — гэта тое, што ў момант забойства абвінавачаны быў у стане алкагольнага ап'янення і што ён мае непагашаную судзімасць. Таксама па месцы арышту, у СІЗА, абвінавачаны характарызуецца адмоўна", — падкрэсліла пракурор. Яна таксама нагадала, што ў 2005 годзе малады чалавек быў асуджаны да пазбаўлення волі тэрмінам на 8 гадоў за нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў, якія прывялі да смерці сужыцеля яго маці. Гэта значыць, што на яго сумленні ўжо жыцці двух чалавек. Забойства студэнткі Наталлі ён здзейсніў, прабыўшы толькі год на волі пасля адбыцця пакарання.

"На лаве абвінавачаных чалавек, які ўяўляе павышаную небяспеку, і пакаранне павінна быць максімальна жорсткім", — заўважыла абвінаваўца. Дзяржаўнае абвінавачанне запрасіла выключную меру пакарання ў выглядзе расстрэлу.

Маці забітай дзяўчыны пагадзілася з пазіцыяй абвінавачання.

Пасяджэнне будзе працягнута 12 чэрвеня, але ці будзе ў гэты дзень абвешчаны прысуд — не вядома.

АНАТОМИЯ

# Дети и кладбище

*В Петриковском районе дети разгромили 40 надгробий на сельском погосте*

Они шли с речки — мимо кладбища: три школьника 10, 12 и 14 лет. И шли бы, как всегда, мимо, но погост, богова делянка, вдруг будто приманил их без причины. Вошли за ограду. Место, запрещенное для игр, порой особенно притягательно для отрочества. Именно в этом возрасте хочется попробовать прыгнуть за "красную линию". Нельзя? А я буду! Что, запрещено? А нам никто не указ. Вот и в тот вечер мальчишки, видимо, на довольно веселой ноте вбежали в сельский некрополь. Мол, что вы нам сделаете! Споткнулись о старый памятник. Он неожиданно упал — оказался нетвердо установлен. Другой попробовали толкнуть уже осознанно, третий, четвертый, десятый — в азарте. И пошла писать-ломать губерния... Скромные обелиски не выдерживали какой-то ненормальной, прямо-таки потусторонней энергии детей и довольно легко заваливались на бок. Некоторые падали на землю, от них отбивались куски. А мальчишки от этого еще больше входили в раж, они будто играли в гигантское домино — укладывали прямоугольные надгробия-шашечки в "рыбу". Разгромили сорок могил. Пришли домой ужинать. Легли спать.

Милиция Петриковского района — а это случилось именно на их территории, в одном из сельских советов района — вычислила малолетних хулиганов ровно через сутки. Ребята оказались из нормальных семей. То есть родители — трудящиеся люди, не бомжи. Детей освидетельствовали на алкоголь и наркотики — они были как стеклышко. Они вообще утром, что называется, уже вернулись в себя и теперь до сих пор не могут внятно объяснить свое беснование, ответить взрослым, зачем напакостили, что с ними произошло, что заставило так жестоко "заиграться" на кладбище.

Сначала деревня была потрясена. Но когда узнали, что вандалы — дети, возмущение стало меняться на жалость. Интересная деталь, правда? Но народная педагогика не сентиментальна и не малодушна, как может показаться на первый взгляд, нет. А жалость — это, вернее, печаль, даже скорбение от того, что люди по опыту знают: действительная расплата — не милицейский штраф и даже не огласка. Это — твоя будущая судьба. По-настоящему наказывает людей она. И в тот злосчастный вечер подростки положили в основание своей судьбы не добротный строительный кирпич, а настоящую мину замедленного действия. Посей поступок — пожнешь характер. Вот и говорят сельчане: жалко детей — что из них дальше-то будет? Что вырастят они в себе из таких поступков?

Но все-таки вернемся к вопросу — почему? Что заставило детей из социума совершить такой жестокий и непонятный поступок?

Мы попросили прокомментировать ситуацию известного минского детского психотерапевта **Елену Валентиновну Навицкую**:

— Конечно, их поступок — это прежде всего вопиющий пример бескультурья. Но с точки зрения детской психологии этот акт — вызов такому распространенному явлению, как детский страх вообще, будь то кладбище или темнота. Дети, как вы говорите, оказались на кладбище под вечер, когда солнце садится. А в это время все чувства обостряются, маленький человек воспринимает все немного преувеличенно. На самом деле у детей такой страх — не что иное, как подавленная агрессия. Дети и кладбище — это проекция неотработанных травм. А приближающаяся темнота для них — символ всего самого злого, плохого, ужасного. Поэтому родителям, у которых детки проявляют вечернее беспокойство, мы обычно предлагаем играть с ними перед сном в активные игры: биться на саблях, может, даже биться подушками, то есть выпускать страхи, направлять животную детскую агрессию в игровое русло. Мне кажется, что у детей из Петриковского района в поведении в тот момент тоже сыграла проекция собственной агрессии на приближающуюся темноту, на страх перед смертью. Нахлынул протест, непонимание, злость... У подростков вообще настроение очень часто колеблется от страха к злости. Между этими чувствами у них очень тонкая грань. То острый приступ беспокойства и даже действительно что-то начинает болеть — ой, живот схватил, в школу не пойду. То приступ агрессии, и тогда начинаются мелкие правонарушения.

Но невоспитанность, неуважение к нормам культуры тоже проявились в этом поступке. А вы знаете, что культура — очень мощная психологическая защита наших внутренних страхов. Чем человек культурнее, тем он на самом деле счастливее. Именно нормы культуры, которые человек твердо впитал с младых ногтей, впоследствии примиряют его с окружающим социумом, и человек меньше конфликтует, меньше злится. А когда внутренней культуры не хватает, в душе копятся обиды, неотработанная злость непонятно на кого, и человек тогда испытывает перманентное чувство неудовлетворенности жизнью. В общем, чем тверже моральные принципы у человека, тем он успешнее в жизни, больше в ладу с самим собой и с другими. А чем меньше нравственных табу и моральных ограничений, тем больше агрессии и немотивированных поступков.

Заместитель председателя Петриковского райисполкома **Виталий Владимирович Пилер**, к которому мы обратились за комментариями как к идеологу района, тоже говорил о воспитании:

— Хулиганство — от непонимания. А оно — от низкого уровня культуры. Более конкретных выводов пока делать не стану — ведется следствие. Конечно, мы не оставим этот случай без внимания, без оценки. Но скажу, что дети сами напуганы своим поступком, широкой оглаской, которую он приобрел. Родители детей дали совершенно твердую оценку их поступку. Они, к слову, как только узнали о хулиганстве, тут же, ночью бросились на кладбище исправлять поваленные их детьми надгробия и к четырем утра уже многое восстановили.

Что и говорить, подростковый "крестоповал" — явление, к сожалению, далеко не редкое в наше время. Отвратительное, гадкое — других оценок быть не должно. Но посмотрим на это явление и вот с какой стороны. Как содержатся наши деревенские погосты? Чисто ли там, убрано? Выметены ли дорожки, убраны ли мусорные кучи? Есть ли добротная общая ограда, закрывается ли на замок калитка, или старенький забор повален во многих местах? В общем, достойно ли хранится память об ушедших предках? Да, детское хулиганство должно быть наказано, но давайте подумаем, откуда его корни? Может быть, еще и от равнодушной неряшливости к могилам взрослых людей?

**Елена МОЛОЧКО.**

ПЫТАННЕ ДНЯ

## Ці вернуць валютныя крэдыты на жыллё?

*Урад зноў заяўляе пра неабходнасць аднаўлення крэдытавання фізічных асоб у валюце на будаўніцтва жылля. Ці падтрымае ініцыятыву Нацбанк?*

— *Неабходна працягнуць зніжэнне працэнтных ставак па крэдытах на будаўніцтва жылля, а таксама вярнуцца да выдачы крэдытаў грамадзянам на жыллёвае будаўніцтва ў замежнай валюце*", — заявіў віцэ-прэм'ер **Анатоль Калінін.**

Аднак, як вядома Нацыянальны банк гэтую прапанову не падтрымлівае. Яшчэ ў сакавіку кіраўнік Нацбанка Надзея Ермакова сцвярджала, што "*валюта патрэбна для іншых мэт*". Гэта быў яе адказ на заяву прэм'ер-міністра Мясніковіча, які тады таксама катэгарычна заяўляў: не будзе даступных камерцыйных крэдытаў, не будзе валютных крэдытаў, дык і не будзе выканаы план прыцягнуць у 2013 годзе больш як на 15 трлн рублёў на будаўніцтва жылля.

Але і зараз Нацыянальны банк прапанову аб выдачы крэдытаў на будаўніцтва жылля ў замежнай валюце не падтрымлівае. Што тычыцца змяншэння працэнтаў па камерцыйных крэдытах на жыллё, то тут таксама наўрад ці трэба чакаць паслабленняў. "*Калі планавалі аб'ёмы будаўніцтва на гэты год, прадугледзелі, што банкі павінны выдаць на камерцыйных умовах крэдытаў на 650 млрд рублёў. За пяць месяцаў выдадзена 880 млрд рублёў, гэта значыць грамадзяне ўзялі гэтыя крэдыты",* — праінфармавала Надзея Ермакова. Як разумець заяву кіраўніка Нацбанка? Калі бяруць пад такія працэнты, то навошта іх змяншаць? А камерцыйныя крэдыты на жыллё выдаюцца сёння пад 35% гадавых.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

## Сколько будем платить за свет

*Как известно, с 1 июня электричество подорожало почти на 16%. Сейчас тарифы на электричество выглядят так:*

| Какая плита в квартире | Цена киловатта до 1 июня (рублей) | Цена киловатта после 1 июня (рублей) |
|---|---|---|
| **Электрическая плита** | | |
| до 250 кВтч | 324,9 | 375,9 |
| от 250 до 400 кВтч | 422,4 | 488,6 |
| от 400 кВтч и больше | 841,7 | 841,7 |
| **Газовая плита** | | |
| до 150 кВтч | 382,4 | 442,4 |
| 150 до 300 кВтч | 497,1 | 575,1 |
| от 300 кВтч и больше | 841,7 | 841,7 |

ПРАБЛЕМА!

## Смеццеправоды ў шматпавярхоўках ліквідуюць?

*Кантэйнераў, усталяваных у некаторых сталічных дварах для асобнага збору адходаў, недастаткова для вырашэння экалагічных праблем гарадоў. Першы намеснік міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя* ***Віталь Кулік*** *заявіў, што для вырашэння сітуацыі можна ліквідаваць смеццеправоды.*



"*Дзеючая сістэма смеццеправодаў перашкаджае асобнаму збору адходаў. І зараз вырашаецца пытанне адмовы ад яе на карысць больш экалагічных рашэнняў*", — сказаў Віталь Кулік. Пры гэтым ён дадаў, што, перш чым разбураць існуючую сістэму збору адходаў, трэба стварыць новую. Міністэрству жыллёва-камунальнай гаспадаркі давядзецца забяспечыць усе двары кантэйнерамі і арганізаваць рэгулярны вываз смецця.

Улады ў якасці альтэрнатывы ліквідацыі смеццеправодаў разглядаюць і такую прапанову, як забеспячэнне смеццеправодаў дадатковымі аддзяленнямі для асобнага збору адходаў. Праўда, Кулік адзначыў агенцтву БЕЛТА, што гэта патрабуе сур'ёзных выдаткаў.

Сёння дамы без смеццеправодаў ёсць толькі ў Гомелі, дзе з 1995 года мясцовымі ўладамі праводзіцца адпаведны эксперымент.

Пакуль жа ў сталічных дварах мінчане паступова прызвычайваюцца да асобнага збору смецця — звычайнай практыкі жыхароў краін Заходняй Еўропы. У жоўтыя кантэйнеры трапляюць ПЭТ-бутэлькі, адходы паперы і кардону. У сінія — шкло. У гарадах катастрафічна мала асобных сметніц для акумулятараў. Каб выкінуць старую батарэйку, трэба ведаць адрасы кантэйнераў, і дабірацца да іх трэба некалькі прыпынкаў, што складае адпаведныя нязручнасці.

Сёння адзін жыхар сталіцы стварае прыкладна 1,79 кубічнага метра смецця ў год. Гэта па аб'ёме прыкладна 16 старых тэлевізараў "Гарызонт". Збіраючы смецце асобна, кожная сям'я зможа ўратаваць тры дрэвы ці захаваць 280 кг паперы.

**Любоў ЛУНЁВА.**

СЛЫШАЛИ?

## В Беларусь — по красному каналу

*С 4 июня вступили в силу новые правила в пунктах пропуска на границе Беларуси*

Теперь гораздо шире стал список тех, кому запрещен въезд по зеленому каналу, зато таможенный досмотр на красном канале предстоит проходить в следующих случаях:

*1.пересечение государственной границы Республики Беларусь транспортным средством более 1 раза в течение 8 суток;*

*2.нахождение в транспортном средстве 4 и более лиц;*

*3 наличие в салоне или багажном отделении транспортного средства сумок, чемоданов, пакетов, коробок, мешков, тюков и других предметов, в которых могут находиться товары, крупногабаритных товаров длительного пользования, в том числе бывших в употреблении;*

*4.пересечение государственной границы Республики Беларусь транспортным средством, имеющим 8 и более посадочных мест, включая водителя, а также грузопассажирскими и грузовыми транспортными средствами;*

*5.транспортное средство зарегистрировано на территории иностранного государства.*

Таким образом, все эти автомобили препровождаются сотрудниками погранслужбы и таможни на красный канал, где будут проходить таможенный досмотр. Это не означает, что обязательно будет взиматься пошлина, ведь если товар ввозится беспошлинный или в пределах нормы, то оснований для этого не будет. Однако время ожидания таких путешественников существенно возрастет.

## Белорусам будут предлагать мебель из чернобыльской древесины?

Ученые-лесоводы считают экономически целесообразным возобновление заготовки древесины в лесах с уровнем радиационного загрязнения от 15 до 40 кюри на 1 кв. километр.

Об этом сообщил БЕЛТА директор Института леса Национальной академии наук Беларуси **Александр Ковалевич.**

По словам Ковалевича, древесина, которая произрастает в этих лесах, имеет повышенное содержание радионуклидов только в поверхностном слое, а чаще всего в коре. *"Избавиться от коры можно с использованием отечественных мобильных окорочных комплексов",* — отметил он.

*"Ежегодно мы могли бы получать здесь несколько миллионов кубических метров экологически чистой древесины, которую можно было бы использовать в мебельной и других отраслях промышленности",* — констатировал Александр Ковалевич.

О том, кто согласится покупать мебель из такой древесины, господин Ковалевич не сообщил.

**Александр НИКОНОРОВ.**

КАДРЫ

## Перастаноўкі ў судзейскім корпусе

*Аляксандр Лукашэнка зрабіў кадравыя перастаноўкі ў судзейскім корпусе. Адпаведны ўказ ён падпісаў 5 чэрвеня.*

**Аляксандр Паўтаў** і **Уладзімір Пуціла** вызвалены ад ранейшых пасад — адпаведна намесніка старшыні і суддзі Беларускага ваеннага суда і старшыні і суддзі Мінскага гарадскога суда — і прызначаны суддзямі Вярхоўнага суда. **Анатоль Фаменка** прызначаны старшынёй Віцебскага міжгарнізоннага ваеннага суда. **Васіль Падольскі** — суддзёй Бабруйскага міжгарнізоннага ваеннага суда на пяцігадовы тэрмін.

ПОСТАЦІ

# Вольга, маці Зміцера...

*Доўгі час, прызнаюся, я асабліва не цікавілася палітыкай. Хіба што, пачынаючы з першых прэзідэнцкіх выбараў у 1994 годзе,за галоўнага сённяшняга начальніка ніводнага разу не аддала свой голас. На вялікі сорам, не выпісвала я і "Народную Волю". А сёння не ўяўляю, як жыла без яе. Аднойчы, два гады таму, я і прачытала на яе старонках аб заўчаснай смерці (25 красавіка 2011 года) Вольгі Васільеўны Дашкевіч— маці лідара зарэгістраванай у Чэхіі міжнароднай арганізацыі "Малады фронт" Зміцера Дашкевіча.*

Аб Зміцеры я і раней чула, але не здагадвалася, што менавіта ён — сын маёй універсітэцкай сакурсніцы Вольгі. Што яна — маці таго самага хлопца, якога сёння ведае ўвесь свет як нязломнага змагара за дэмакратычную Беларусь і якога так баіцца ўлада, што хоча чым даўжэй трымаць за кратамі...

Аглушаная нечаканай трагічнай звесткай, я міжволі акунулася ў плынь успамінаў. І ўсё далёкае стала такім блізкім, нібыта было ўчора.



На здымку студэнцкай пары (злева направа): Вольгавы сакурсніцы Ала Юшкевіч і Ала Рэбкавец, сама Вольга Шкала

### Калі мы былі маладыя

У канцы 70-х мы разам з Вольгай (дзявоцкае прозвішча яе — Шкала) паступілі на факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, займаліся ў адной групе, жылі ў адным інтэрнацкім пакоі. Яна паўстае перад маімі вачыма быццам наяве — цёмнавалосая, з вабнай, ладнай фігурай і стройнымі ножкамі. То вясёлая, з заразліва-залівістым смехам, то сур'ёзная, з характэрнай звычкай паводзіць вуснамі, калі ў штосьці заглыблялася — у чытанне ці ва ўласныя думкі. Праз таўшчыню гадоў прабіваецца да мяне яе голас і пранілівы погляд вачэй. І няўтульна ад думкі, што яе ўжо няма на свеце, хоць ведаю: яна не знікла назаўжды.

У студэнцкім пакоі нас было чацвёра. Акрамя мяне і Вольгі Шкалы, яшчэ Вольга Новікава і Алачка Юшкевіч. Памятаю: нам, маладым тады дзяўчатам, хацелася быць moднымі, добра выглядаць. Натуральнае жаданне, ды магчымасцяў было малавата. Мінскі ГУМ быў забіты непрывабнай прадукцыяй, а калі ў канцы месяца "выкідваўся" дыхтоўны імпарт, то тут жа ўтвараліся безнадзейныя доўгахвостыя чэргі... Часам выручалі замежныя студэнты, што жылі ў нашым інтэрнаце. Прыязджалі з краін, як тады лічылася паводле савецкай прапаганды, глухіх і адсталых: Грэцыі, Емена, Алжыра і г.д. Але ў параўнанні з намі яны жылі куды лепш. Некаторыя да прыезду ў СССР былі аслеплены камуністычнымі ілюзіямі, ды тут, на радзіме сваёй ранейшай мары, развіталіся з міфамі і нават не хавалі свайго раздражнення ад нашага ладу жыцця. Асабліва іх заядаў нягеглы, бедны на паслугі быт. Цёмнаскурая студэнтка з Мадагаскара, помню, даверна казала нам, што, вярнуўшыся дамоў, будзе рабіць усё для таго, каб у яе краіне не было такога грамадскага ладу.

Улетку мы, беларускія студэнты, раз'язджаліся дадому па сваіх вёсках і гарадах. А нашы замежныя сябры падарожнічалі ў Рым, Парыж, прывозілі адтуль каштоўны імпарт. Што-кольвечы зрэдку даставалася і Вользе. Але не ў гэтым быў сакрэт таго, што і ў тыя гады дзяўчына ўмудралася прыгожа апранацца. У яе быў вытанчаны густ, і таму яна заўсёды, у любым адзенні, выглядала прывабна і элегантна. Хоць, наколькі я ведаю, зусім не зацыклівалася на гэтым. Знешняя прыгажосць і яркасць у яе спалучалася з гарманічнасцю натуры, багаццем і хараством унутранага свету. Шчырая і шчодрая, вельмі таварыская ў адносінах да іншых, яна, ні хвіліны не вагаючыся, магла дастаць з шафы і аддаць мне надоўга панасіць якую-небудзь сімпатычную рэч. Нічога нікому не шкадавала, усім дзялілася.

Воля была зазвычай вясёлай і жартаўлівай, любіла пасмяяцца, і гэта яшчэ больш дадавала ёй абаяльнасці. Засяроджаная, старанная, заглыбленая ў сябе — такой памятаю яе ва аўдыторыі, у бібліятэцы. На перапынках паміж лекцыямі яе галава заўсёды была схілена над падручнікамі і канспектамі. Гэта бачна і на студэнцкіх фатаграфіях.

...У верасні студэнты масава адпраўляліся ў калгасы на бульбу. Аднойчы мы апынуліся ў адной з гаспадарак Віцебшчыны. Напэўна, у самым страшным сне Вольга не магла тады ўявіць, што праз гады і гады яе тады яшчэ не народжаны сынок, які стане вядомым усёй краіне як адважны маладзёжны актывіст Зміцер Дашкевіч, за свае дэмакратычныя перакананні будзе пакутаваць у вязніцы пэўны час блізу гэтых самых мясцін.

...Дык вось, па колькасці сабранай калгаснай бульбы з Вольгай Шкала зраўняцца не мог ніхто. Не паспее напоўніць адно вядро, як ужо нясе другое. Студэнты на вёсцы былі дармавой рабочай сілай.

Пасля нялёгкай працы ў прыстасаванай пад сталоўку драўлянай хаціне нас чакала вячэра, прыгатаваная сваімі ж паварамі-студэнтамі. Потым сталоўка дапазна ператваралася ў танцавальную залу. І мы — куды толькі знікала стома — танчылі і танчылі пад пласцінкі з песнямі ўзыходзячай тады зоркі Алы Пугачовай. І жыццё здавалася такім бясклапотным, радасным і бясконцым... Нас не бянтэжыла, што ў мясцовай краме, акрамя карамелі, кількі ды хлеба, не было чаго купіць. Затое ад падлогі да столі грувасціліся скрынкі з вінoм у 700-грамовых бутэльках-"фугасах". Мы не звярталі на тое ўвагі. Жыццё, быццам хуткі цягнік, неслася ў невядомую далячынь...

### Развеяныя ілюзіі

Тады ва ўніверсітэце мы яшчэ не прыступалі да вывучэння гісторыі КПСС, савецкай эканомікі і г.д., але аднойчы праслухалі запамінальную лекцыю мясцовага вальнадумца. Запрасіўшы да сябе ў сціплы домік, немалады інтэлігентны мужчына выдаў нам пра "вялікага Сталіна" і мінулую вайну такое, чаго мы не тое што і потым за ўсе гады вучобы ні ад аднаго выкладчыка не чулі, а яшчэ і доўга нідзе не маглі прачытаць. Гэта было зерне праўды, кінутае на глебу нашага замшэлага камуністычнага светапогляду. Зерне ляжала дзесьці ў глыбіні душы да пары да часу.

У тым жа мястэчку была вялікая, але закінутая, з пустымі аконнымі вачніцамі царква. Яе сіроцкі стан для нас, гадаванцаў савецкай адукацыі, а значыць, перакананых атэістаў і будучых праваднікоў палітыкі партыі, не ўяўляў ніякай цікавасці. Цяпер аб тым успрыняцці Боскага храма ўспамінаць сорамна, як і пра мясцовыя могілкі. Па чутках, на іх у XIX стагоддзі была пахавана знакамітая пецярбургская артыстка царскага двара, ураджэнка гэтых мясцін. Яе цынкавая труна была пастаўлена ў цагляным склепе. Магіла, відаць, ужо даўно была раскапана, у склепе зеўрала вялікая дзірка. Праз яе віднелася адчыненая труна, на дне якой ляжаў чэрап. Вандалы савецкіх часоў учынілі гэтае кашчунства з мэтай адабраць у нябожчыцы залатыя ўпрыгажэнні. Мабыць, ім гэта ўдалося, але наўрад ці здабыча з таго свету іх ашчаслівіла.

Могілкі — свяшчэннае месца, дзе спачываюць памерлыя да будучага ўваскрэсення. Пад крыжам семя, якое прарасце для вечнага жыцця ў Царстве Боскім. Цяпер ужо можна расстаўляць акцэнты. А тады сляпыя і глухія мы былі, хоць і лічылі сябе прылучанымі да навукі. Што сталася з той магілай цяпер? Хочацца верыць, што яна ўпарадкавана і дагледжана. Хаця... І зараз ля курапацкіх могілак некаторыя нелюдзі імкнуцца спяваць ды танцаваць. Гэта гаворыць аб тым, што ў духоўным плане наша грамадства апусцілася яшчэ ніжэй, чым у камуністычныя часы.

Усё болей, дзякуй Богу, выключэнняў з гэтага пачварнага правіла. Вольга з сынам Зміцерам, яго сябры — глыбокія вернікі-хрысціяне — таму пацвярджэнне.

### Каханне і любоў

Што датычыць Вольгі, то не стану казаць, што была з ёю ў надта блізкім сяброўстве, як, скажам, Алачка Юшкевіч. Не ведала я асабліва яе душэўных тайн. Але была, як і ўсе, добра пасвечана ў гісторыю незвычайнага кахання Вольгі з Вячаславам Дашкевічам, вельмі прыемным, інтэлігентным чалавекам, старэйшым за сваю абранніцу дзесьці на паўтара дзясятка гадоў. У Вячаславе адчувалася яўная мужчынская самавітасць, надзейнасць, унутраная сур'ёзнасць. Гэта іх яднала, і наогул абое яны — Воля і Слава — глядзеліся прыгожай парай. А галоўнае, кахалі адзін аднаго па-сапраўднаму. І праз нейкі час узялі шлюб.

Пасля першага курса Вольга перавялася на завочнае аддзяленне і разам з мужам паехала на Далёкі Усход. Значны час яны працавалі ў Магаданскай вобласці па сваёй журналісцкай лініі.

Далей нашы шляхі не перасякаліся. Неяк да мяне дайшла навіна пра Вольгу, што яны з мужам пасля вяртання ў Беларусь працуюць у Старых Дарогах.

Воля, Волечка! Хіба магла я тады падумаць, што ты заўчасна пакінеш гэты свет? Дзе ты цяпер, у якіх неабсяжных прасторах лётаеш, птаха паднябесная, легкакрылая? Ці бачыш ты з гэтай вышыні сваё адзінае дзіця-птушанё, кінутае ў страшную клетку? Ці адчуваеш, з якой мужнай годнасцю нясе ён свой цяжкі крыж за нескаронасць духу і чалавечага гонару? Ці ведаеш, як сумуе па вас абаіх твой верны, любы муж і бацька сына Вячаслаў?

...Даведаўшыся, што Зміцер Дашкевіч — сын Вольгі, я адусюль лавіла аб ім кожную вестачку. Упершыню, глянуўшы на Зміцерава фота, была ўражана: як жа падобны ён адначасна і на маці, і на бацьку! Малады прыгожы твар, ад якога ідзе святло чысціні, высакародства, цвёрдасці духу. Адкрыты, спакойны позірк вачэй. А вакол — жудасныя пруты кратаў, якімі адгароджана ад свету гэтая жывая чалавечая прыгажосць. Думаю, тое фота абляцела ўвесь свет і закранула не адно сэрца, асабліва мацярынскае.

А ёй самой з якім болем у сэрцы давялося цягам дзесятка гадоў пераносіць не адзінкавыя сынавы арышты, праследы,ператрусы, запалохванні, пагрозы, нават збіццё і несправядлівыя судовыя прысуды! За што? Па крымінальным кодэксе — не за крадзеж ці замах на чыёсьці жыццё. А насамрэч — за шчырую любоў да Радзімы, за гарачае жаданне яе нацыянальнага, палітычнага і эканамічнага адраджэння. У рэшце рэшт за "крамольнае" нашэнне майкі з дэвізамі "Люблю Беларусь", "Жыве Беларусь!".

Вольга казала "Люблю!" Беларусі і сыну, "кахаю" — мужу...

### Такім ён вырас

Так, уся бяда яе сына — у светлым розуме, у высокіх маральных ідэалах, у мужнасці і смеласці ў іх адстойванні, у непрыняцці зла і хлусні — ва ўсім, што складае яго актыўную грамадзянскую пазіцыю.

Яна асабліва выявілася, калі Зміцер Дашкевіч далучыўся да незарэгістраванай у Беларусі міжнароднай арганізацыі "Малады фронт" і затым узначаліў яе, паказаў сябе выдатным арганізатарам і палітыкам. Пры ім шэрагі маладафронтаўцаў значна павялічыліся, пашырылася поле іх дзейнасці, звязанай з высокімі мэтамі, а таму часам і небяспечнай. Зрэшты, небяспекай для свайго існавання ўспрымалі і ўспрымаюць дзейнасць патрыётаў якраз тыя, хто любіць Беларусь хутчэй на словах...

Менавіта за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі на Зміцера Дашкевіча, як і некалькіх яе іншых сябраў, яшчэ ў 2006 годзе была заведзена крымінальная справа. Ён атрымаў два гады зняволення, якія для Вольгі здаліся вечнасцю. Колькі яна перажыла, чакаючы сына з турмы! Урэшце — радасная сустрэча Зміцера з маці, бацькам, сябрамі. Але ж актыўны арганізатар і ўдзельнік масавых дэмакцый увесь час знаходзіўся пад пільным вокам улад, перад важнымі палітычнымі падзеямі ў краіне яго не раз спрабавалі "зачысціць", прэвентыўна затрымаць і асудзіць да адміністрацыйнага арышту.

Вядома, што ўсяго за дзень да чарговых прэзідэнцкіх выбараў (прызначаных на 19 снежня 2010 года) яму, відаць, падрыхтавалі горшы сцэнарый. Зміцер Дашкевіч і яго паплечнік Эдуард Лобаў былі затрыманы па абвінавачванні... у збіцці нейкіх грамадзян у двары жылога дома... Быццам яму, добра выхаванаму хлопцу з прыстойнай сям'і, глыбока веруючаму чалавеку, які ўвесь час знаходзіўся "пад прыцэлам" чэкістаў, не было больш чаго рабіць, як толькі без дай прычыны збіваць нейкіх там, пэўна, падсадных "качараў". Недарэчнасць і надуманасць арышту была бачна і непрафесійнаму воку.

У выніку "правасуддзя" Зміцер атрымаў аж два гады пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму і 24 сакавіка 2011 года быў накіраваны ў ПК-13 г.Глыбокае Віцебскай вобласці, дзе калісьці яго мама так ударна працавала на ўборцы другога хлеба...



Вольга і Вячаслаў Дашкевічы.

Уяўляю, колькі слёз пралілі яе вочы, колькі непрыступных кабінетаў абабілі яе ногі, колькі невыносна-пякучага болю зведала няўцешнае мацярынскае сэрца. Яно, ужо немаладое, не вытрымала гэтага ціску несправядлівасці: жорсткасці сістэмы, якая крэмзала нізавошта лёсы, жыцці цудоўных маладзёнаў, якімі варта ганарыцца. Яе падарванае сэрца перастала біцца праз месяц пасля ракавога прысуду сыну — 25 красавіка 2011 года. Вользе было тады толькі 54 гады...

Для яе, маёй даўняй сакурсніцы, ужо мінулі жыцейскія буры, зямныя пакуты і радасці. Але... калі б Вольга была жывая і мы сустрэліся наяве, сказала б ёй: "Воля, якога сына, якога сапраўднага чалавека ты нарадзіла! Дзякуй табе за Зміцера. Дзякуй за хлопца, які свеціць нам і ўсяляе надзею на лепшае будучае для нас і нашых дзяцей. Разам з мужам Вячаславам Уладзіміравічам вы ўзгадавалі не нейкага хлюпіка, не марнатраўца жыцця, не пустэльгу, а годнага, мужнага чалавека з моцным унутраным стрыжнем і дабрадзейнымі жыццёвымі ўстаноўкамі".

З майго сэрца ідзе шмат цёплых слоў на адрас Зміцера Дашкевіча, але баюся, каб яны не здаліся яму занадта гучнымі і пафаснымі.

### Дзякуй вам, нязломныя!

Балюча бачыць, што многія, зараз цалкам паглынутыя матэрыяльнымі інтарэсамі, забываюцца, да чаго абавязвае высокае званне чалавека. А яно падразумявае духоўныя ідэалы, якія чалавек закліканы ўвасабляць у жыцці і самаадданa адстойваць. Калі спатрэбіцца, то і ахвяраваць сабой у імя сваёй веры і перакананняў. Мы страчваем адчуванне далучанасці да жыцця краіны, ператвараемся ў пасіўных і раўнадушных назіральнікаў, дазваляем запалохваць сябе, падманваць. Такія, як Зміцер, не могуць змірыцца з гэтым і свядома нясуць свае пакуты дзеля будучыні Бацькаўшчыны.

Яшчэ ў 2006 годзе на просьбу бацькі не вяртацца з замежнай паездкі, бо над сынам вісела пагроза арышту, Зміцер без ваганняў адказаў: "Я свой шлях выбраў самастойна і прайду яго да канца, чаго б мне гэта ні каштавала..." Ён верны свайму слову. Вернасць — вось што родніць Зміцера, як і многіх ягоных таварышаў, з іх бацькамі не толькі па крыві, а і па духу. У гэтым іх сіла і нязломнасць.

Так, дзякуючы гэтаму мужнаму юнаку і іншым вязням сумлення, яшчэ не цалкам паглынула нас набрынялая слязьмі шэрая хмара над зямлёй. А значыць — жыве Беларусь! Дзякуй за гэта, Дзіма, дзякуйце, маці змагара незабыўная Вольга і ягоны бацька Вячаслаў!

...Маці Дзімы ўжо, на вялікі жаль, няма. Але ў яго, на шчасце, ёсць любячы бацька, ёсць каханая — нядаўняя нявеста, а цяпер ужо жонка Наста Палажанка, адданая і такая ж мужная, як ён. І яна за сваю грамадскую актыўнасць паспытала камеру СІЗА КДБ, але засталася ранейшай — пяшчотнай і непахіснай. І прыехала да яго ў турму, каб пабрацца шлюбам. Мне здаецца, Наста — цяпер ужо Дашкевіч па прозвішчы — нават знешне падобная на Вольгу, маці яе каханага мужа. Шчасця вам і здароўя, дарагія мае, і хутчэйшай сустрэчы на волі, доўгачаканай сустрэчы з сям'ёй і сябрамі!

Зычу ўсім вязням сумлення і іх сем'ям Боскай дапамогі, вялікага цярпення, мужнасці ў пераадоленні ўсіх нягод, надзеі на хутчэйшае вяртанне дамоў. Нізкі паклон вам усім да самай зямлі!

**Людміла РУЦІЧ.**

*г.Івацэвічы.*

НЕЛЬЗЯ МОЛЧАТЬ!

# Выжить в больнице

До сих пор не могу прийти в себя от жуткой трагедии, унесшей жизни сразу четверых моих коллег, — врачей города Полоцка! Мне кажется, эта гибель — не просто роковое стечение обстоятельств, это плод нищеты и неуважения к нашей медицине. Последний звонок. Посмотрите, на какой "скорой" повезли лучших врачей области — элиту! Добитая старая рухлядь. Не сломалась бы машина, не было бы этой остановки, не было бы аварии.

Складывается впечатление, что финансирование медицины в Витебске и области идет по остаточному принципу. Сначала показуха, новая плитка в центре города, новые фасады, реконструкция центральных улиц и площади, а уже потом медицина. Буквально на днях заглянул на строительство неврологического корпуса Больницы скорой помощи. На паспорте объекта указано: введение в эксплуатацию — декабрь 2012 года. Но стройка идет, причем ни шатко ни валко на объекте работало человек 5—6. Что совсем возмутило: прямо под открытым небом сброшены в кучу раковины, другая сантехника. Видимо, все уже было закуплено, привезено, а корпус не готов, поэтому и оставили сантехнику просто на территории. Сторож признался, что уже были и случаи кражи... До сих пор не закончен ремонт второго хирургического корпуса областного онкодиспансера, все еще продолжается капремонт одного из корпусов инфекционной больницы.



Недавно знакомую госпитализировали во вторую областную больницу, бывшую железнодорожную, ведомственную, доведенную до ручки. Пребывание в кардиологии — пытка. Палаты переполнены, пациенты лежат в коридорах, все — на старых пружинистых кроватях, матрасы с палец толщиной, один туалет на все отделение. Смрад, духота на весь этаж. Какое же нужно здоровье, чтобы выжить в таких больничных условиях!

Но, как было написано на воротах Освенцима: "Каждому свое..." Кому-то веселиться на корпоративном газпромовском фесте, ездить на крутых иномарках, а кому-то на старой "скорой" выезжать на конференцию, обслуживать два участка, дежурить по выходным (а именно так работают мои коллеги терапевты и педиатры) или сидеть за рулем по 350 часов в месяц, чтобы заработать пресловутые 500 долларов. Недавно разговорился с водителем городского автобусного маршрута. Водитель опытный, стаж — 26 лет. Увольняется. Что? Почему? За 200 часов в месяц платят три миллиона, чтобы заработать 4,5 миллиона, нужно провести за баранкой 350 часов. Но тогда есть опасность заснуть за рулем...

**Игорь ПОСТНОВ,**
**врач.**

*Витебск.*

ЭКАЛОГІЯ

## *Гіяцынтам чысцяць возера*

*У Гродзенскай вобласці праводзіцца эксперымент: мясцовае Юбілейнае возера, якое кожны год эпідэміёлагі закрываюць для купання, вырашылі ачысціць эйхорніяй, альбо водным гіяцынтам.*




У Юбілейнае возера высадзілі каля 2 тысяч парасткаў эйхорніі. Гэтая водная расліна паспяхова ўжываецца для біялагічнай ачысткі. Яна фільтруе нават сцёкі.

Праўда, каардынатар праектаў па прадухіленні забруджвання водных рэсурсаў і эксперт грамадскай арганізацыі "Цэнтр экалагічных рашэнняў" Наталля Парэчына распавяла журналістам, што ў эйхорніі ёсць і адваротны бок: расліна настолькі пладавітая, што за лета ў цёплых краінах запаўняе вадаёмы куды большай плошчы, чым Юбілейнае возера. Калі ў выпадку мяккай зімы расліна не загіне і з прыходам цяпла будзе размнажацца з новай сілай, можа ўзнікнуць такая ж праблема, як з баршчэўнікам. Спачатку яго лічылі бясшкодным, а цяпер марнуюць мільёны рублёў на барацьбу з ім.

Але ўсё ж ёсць надзея, што нашым вадаёмам гэта не пагражае: калі тэмпература вады апускаецца ніжэй за 10 градусаў, эйхорнія гіне і хутка гніе.

*Фота vgr.by*

НАБОЛЕЛО!

# Дипломированных много — образованных мало

*14 июня в стране стартует централизованное тестирование. Пройдет оно по новым правилам, с изменениями в количестве проходных баллов. Но придут ли в наши вузы способные студенты?*

К написанию этой статьи меня подтолкнул один эпизод. В переполненном маршрутном автобусе № 19 моими случайными попутчиками оказались двое юношей, обсуждавшие свою учебу в одном из высших заведений, принадлежащих, судя по разговору, к силовому ведомству.

— Я, когда начал учиться здесь, стал следить за своей речью, вместо "чево" говорить "что", писать грамотнее стараюсь. А вот у нас есть один курсант, так он в диктанте из 142 слов сделал 57 ошибок! — делился впечатлениями один из студентов.

Честно говоря, стало не по себе от услышанного. Оказывается, и с таким уровнем грамотности можно стать студентом (курсантом) высшего (!) учебного заведения. Впрочем, анализируя результаты прошлогодней вступительной кампании (а она почти не отличалась от предыдущих) есть над чем призадуматься.

Если, например, взять результаты прошлого года по математике или физике, то становится более чем грустно. Почти 11% абитуриентов не набрали 7 баллов по 100-балльной системе. А решить надо было всего-то 3—4 задачи из 30!

Узрев эту печальную статистику, наше Министерство образования удвоило в этом году необходимый минимум проходного балла с 7 до 15. Это означает, что из 30 задач теперь надо решить шесть-восемь, или менее одной трети заданий, — и получишь заветный проходной балл. В советское время такого дисбаланса, чтобы знания отличника и троечника, если так можно сказать, отличались на такое количество решенных задач, не было.

В этом году, чтобы претендовать на поступление в вуз, по русскому и белорусскому языкам нужно набрать еще меньше баллов — 10 из 100! Скажу честно, мне сложно представить этот десятибалльный проходной уровень! Проводя аналогию с советским временем, получается, что если отличник получает 5 баллов, то оценка в 5 раз ниже — это единица. С таким результатом в вуз не брали.

Новые пороги установлены и по математике, физике, химии, биологии — не менее 15 баллов, по истории Беларуси, всемирной истории новейшего времени, обществоведению, географии и иностранным языкам — не менее 20 баллов. Министр образования Сергей Маскевич уверен, что таким образом получится "уменьшить количество слабых абитуриентов" в высших учебных заведениях. Он заявил: "Нельзя допустить, чтобы авторитет знаний снижался и в университетах учились слабые студенты".

Это, конечно, правильно. И планку требований к поступающим в вузы поднимать надо. Но только ли количеством набранных баллов эту проблему решим? Почему никто не говорит о том, как повысить уровень нашего образования в целом?

Беларусь занимает первое место среди стран СНГ по развитию человеческого потенциала, и таким лидерством можно очень даже гордиться, если не знать, что в мировой табели о рангах мы занимаем 65-е место по этому показателю. Это при том, что в Европе всего 43 страны. Да, мы стоим выше России и Украины. Но наши балтийские соседки — Литва и Латвия — обгоняют нас более чем на 20 пунктов.

В Беларуси количество библиотек с 5367 в 1996 году сократилось до 3865 в 2009 году, а количество детских домов за тот же период увеличилось с 22 до 36. При этом, судя по статистике, мы вроде как и образованнее стали — если в 1990 году у нас было 33 вуза, то после 20 лет независимости насчитывается уже 55! Но... уже заговорили об инфляции дипломов. Дипломированных много — образованных мало. В стране не от хорошей жизни объявлена широкомасштабная модернизация. Хочется верить, что наши руководители наконец-то поняли, что знание — это сила, что будущее нашей страны зависит не только от того, кто придет учиться в вузы, но и от того, какие специалисты оттуда выйдут.

**Леонид ДОКУЧАЕВ.**

ВОПРОС—ОТВЕТ

# Как инвалиду провести газ?

***Пишет вам пенсионер, постоянный подписчик "Народной Воли". Мы живем в небольшом городе Петрикове в двухэтажном доме. Давно уже в Петриков провели природный газ, но до нашего дома его не довели. А ведь в нашем доме из восьми квартир четверо инвалидов. Горячей воды тоже нет. Приходится ее греть на привозном баллонном газе. Местная власть советует нам купить электробойлеры в квартиры и в результате сесть на хлеб с водой, поскольку электричество стало дорогим. Ну как, скажите, выжить пенсионерам при таком отношении властей к простым людям? Может, надо менять власть, а то заелись чиновники, особенно на местах?***

**Ю.М.Танюшкин, г.Петриков.**

## Комментарий юриста

Юрий Михайлович, из вашего письма следует, что вы неоднократно обращались в Петриковский райисполком с просьбой газифицировать ваш дом. На ваши обращения вы получали ответы-отписки. В последнем по времени ответе заместитель председателя райисполкома А.В.Фурса среди прочего отметил: *"В связи с отсутствием необходимых финансовых средств решить вопрос газоснабжения или горячего водоснабжения вашего жилого дома в текущем году не представляется возможным. При наличии финансовых средств на эти цели вопрос будет рассматриваться при формировании плана работ на 2014 год".*

Что здесь комментировать? По форме — правильно, а по сути — безобразие. В соответствии с Конституцией государство обязано принимать все доступные ему меры для... "полного осуществления прав и свобод граждан Республики Беларусь" (ст.59). Такая же обязанность возлагается на все государственные органы, должностных и иных лиц, которым доверено исполнение государственных функций.

Тем самым, заняв кресло госслужащего, надо делать все возможное для своих граждан. Это — первейшая забота государственных органов, в том числе и местной власти.

От себя лично и от редакции газеты "Народная Воля", подписчиком которой является Ю.М.Танюшкин, просим вас, председатель райисполкома Александр Васильевич Пинчук, а также ваших заместителей проявить отеческую заботу о пенсионерах и инвалидах и найти возможность в 2014 году газифицировать дом, где они проживают (улица 1 Мая, дом №79).

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**доктор юридических наук,**
**профессор,**
**заслуженный юрист**
**Республики Беларусь.**

### От редакции

*Этот вопрос будет у нас на контроле. При получении информации о выполнении или невыполнении просьбы Ю.М.Танюшкина мы сообщим читателям.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Ці праўда, што нават былога мужа могуць пакараць за збіццё жонкі?

***У адным з папярэдніх нумароў "Народнай Волі" быў артыкул, прысвечаны "кругламу сталу" па праблемах хатняга гвалту. І там узгадвалася пра адпаведны законапраект, які распрацавалі незалежныя юрысты. Калі ласка, распавядзіце крыху падрабязней пра гэты дакумент. Можа, там прапануюцца нейкія сапраўды рэвалюцыйныя нормы, таму дэпутаты і не хочуць яго разглядаць? Напрыклад, у нас з першай жонкай таксама не ўсё добра было ў адносінах, мы разваліся. Цяпер у мяне другі шлюб і адносіны ў сям'і зусім іншыя. Таму хацелася б ведаць, на каго будзе распаўсюджваецца гэты закон (калі яго прымуць), а таксама, да якой адказнасці прапануецца прыцягнуць мужа, які некалі замахваўся на жонку, і жонку, якая сваімі заўвагамі і рэгулярнымі скандаламі, як цяпер кажуць, "выносіць мозг" мужу.***

**Ігар АНКУДА, Мінск.**

Юрысты прапануюць, каб тэрміны іскавой даўніны не распаўсюджваліся на тых, хто патрабуе абароны ад хатняга гвалту. Таму цалкам верагодна, што нават былых мужоў можна будзе прыцягнуць да адказнасці — калі, зразумела, закон аб прадухіленні хатняга гвалту будзе прыняты.

Пакуль акрэслена даволі шырокая сфера дзейнасці гэтага закона — ён распаўсюджваецца і на тых, хто зарэгістраваў свой шлюб, і на асоб, якія пражываюць сумесна і знаходзяцца ў фактычных шлюбных адносінах, і нават на былых мужа і жонку.

Згодна з законапраектам, заявіць аб факце хатняга гвалту могуць не толькі дзеці і блізкія сям'і, але і, напрыклад, арганізацыя, у якой працуе жанчына, якую рэгулярна б'е муж.

Калі чалавек ужо мае кляймо хатняга тырана і стаіць на адпаведным прафілактычным уліку, у выпадку паўторнага здзяйснення ім гвалту ў сям'і органы ўнутраных спраў або суд могуць накіраваць яго ***на спецыяльную псіхалагічную карэкцыйную праграму***. Ухіленне ад такога псіхалагічнага курса пацягне за сабой адміністрацыйную адказнасць.

Дарэчы, у выпадку неабходнасці да псіхолага могуць накіраваць і тых, хто пацярпеў ад хатняга гвалту і мае патрэбу ў гэтым.

Сямейнаму гвалтаўніку таксама можа быць вынесена ***ахоўнае прадпісанне.*** Яно прадугледжвае такія меры, як часовае высяленне з месца пражывання, забарону на недапушчальнасць любых кантактаў з пацярпелым (у тым ліку па тэлефоне і інтэрнэце). Асобу, якая атрымала ахоўнае прадпісанне і парушыла яго патрабаванні, могуць прыцягнуць нават да крымінальнай адказнасці.

Дарэчы, на ўзгаданым у лісце чытача "круглым стале" аб прадухіленні хатняга гвалту прысутнічала дэпутат Палаты прадстаўнікоў **Алена Шамаль**. Яна не выказвалася супраць прыняцця закона аб хатнім гвалце, а заўважыла, што асабіста ёй не хапіла часу на вывучэнне законапраекта, падрыхтаванага незалежнымі экспертамі, і што яна мае заўвагі амаль па ўсіх раздзелах. Пры гэтым, як паведамляла "Народная Воля", гэты законапраект адкрыты для абмеркавання і дапрацовак.

**Марына КОКТЫШ.**

ДАЛЕКОЕ—БЛИЗКОЕ

# Просто Валя

В номере "Народной Воли" от 30 апреля 2013 года помещена замечательная заметка Юрия Ясинского "Тост за женщин, не вернувшихся с войны".

И мне захотелось рассказать об одной мужественной женщине, отдавшей жизнь за нашу ПОБЕДУ!

...К зиме 1943 года, после Победы под Сталинградом, наша 3-я гвардейская армия, которой командовал генерал-лейтенант Д.Д.Лелюшенко, продвигалась с боями на юго-восток. 3 января мы освободили город Морозовск и здесь к нам, в 94-й отдельный батальон противотанковых ружей, добровольно пришла на должность санинструктора молодая красивая девушка — Валя Костенко. В жизни однополчан она мелькнула, как яркий метеор, и погибла на поле боя с противотанковым ружьем в руках через какой-то месяц после прибытия в батальон.

Начиналось освобождение Украины от немецко-фашистских захватчиков. Мы тогда наступали на город Краснодон, родной город Вали, там жила ее мать.

На подступах к Краснодону разгорелся ожесточенный бой. 13 февраля 1943 года фашисты бросили против нашего батальона около 30 танков и батальон пехоты.

Бронебойщики били танки врага из своих противотанковых ружей, строчили по пехоте из пулеметов. Вот загорелся один, второй, третий танк врага. Падали в снег убитые и раненые фашисты.

Немалые потери несли и мы, советские воины. Валя Костенко бегала по полю боя, перевязывала раненых, перетаскивала их к себе в укрытие — небольшой овражек. 42 советским воинам оказала она в том бою первую помощь — эта хрупкая на вид девушка.

В один момент боя Валя метнулась к умолкшей бронебойке, расчет которой погиб. Она быстро, умело навела прицел на надвигающийся на нее фашистский танк, нажала на спусковой крючок — танк остановился и загорелся, затем взорвался.

Но из-за подбитой машины вынырнула вторая — Валя не успела еще раз нажать на спусковой крючок, выстрелить, — танк наехал на нее и подмял под свои стальные гусеницы.

Враг отступил. Пошел снег. В роту капитана Казимирова, в которой воевала Валя, пришел комбат - гвардии майор Акопов.

— Какие потери, сколько погибло, сколько ранено?

Гвардии капитан Казимиров стал перечислять.

— Не вижу Вали Костенко, где она?

— Погибла, можно сказать, у меня на глазах.

Комбат приказал: найти тело Вали Костенко и доставить в Краснодон, где живет ее мать.

Разведчики нашли тело Вали, уже занесенное снегом. Привезли в Краснодон. И сейчас там, в музее Краснодона, есть стенд с фамилиями погибших земляков. Вначале было указано — В.В.Костенко — предполагали, что это мужчина.

И только тогда, когда я написал в музей о Вале Костенко, были внесены соответствующие изменения, было названо ее имя и отчество.

А комбат Акопов там же, на поле боя, на снегу оформил материал на присвоение Вале Костенко звания Героя Советского Союза — она ко всему вынесла с поля боя 42 раненых воина.

Вскоре после этого Валя Костенко была награждена за свои подвиги высокой наградой — орденом Ленина. А мы продолжали движение в сторону Донбасса.

О судьбе Вали Костенко я знал и ранее, так как воевал с ней в одной роте. Но подробности мне рассказал командир роты —капитан Казимиров — во время одной из встреч однополчан.

**Лев Самсонович**
**АНЦЕЛИОВИЧ,**
**майор в отставке,**
**инвалид войны,**
**награжден семью**
**орденами и 33 медалями, почетный гражданин**
**городов Кременная**
**(Луганская область),**
**Каушаны (Молдова) и**
**Березнеговатского**
**района Николаевской**
**области (Украина).**

РОЗДУМ

## *Што дае мне беларуская мова*

*Ужо больш за 20 год мы, беларусы, маем сваю незалежную дзяржаву. Але пры гэтым адносіны да мовы тытульнай нацыі — беларускай — у краіне па імені Рэспубліка Беларусь проста недаравальныя. Нікому не даравальныя — ні "вярхам", ні "нізам".*

Наша мова не проста не мае пільнага клопату з боку дзяржавы — усё робіцца для яе выцяснення і прыніжэння. Хіба не дзеля гэтага і правялі майскі рэферэндум-1995, і змянілі закон аб мовах, усяляк выціскаюць беларускую мову з сістэмы адукацыі, сродкаў масавай інфармацыі, афіцыйнага ўжытку.

Між тым не трэба даказваць, што кожная мова — з'ява унікальная. Гэта сапраўдны скарб народа, яе носьбіта. Без беларускай мовы мы відавочна губляем свой непаўторны беларускі погляд на свет, губляем саміх сябе. Я не хачу гэтага. І таму вырашыла мову вывучаць самастойна. Што яна мне дае?

Найперш — пачуццё самаідэнтыфікацыі. Я зразумела, што я — беларуска! Толькі авалодаўшы мовай, па-сапраўднаму адчуваеш прыналежнасць да свайго роду, зямлі, краіны. Мова, нібы чароўная папараць-кветка, раскрывае табе Беларусь ва ўсіх яе праявах, адмыкае свае духоўныя скарбы. Веданне мовы мяняе жыццё — кола знаёмых і сяброў, інтарэсы, погляды на падзеі — сённяшнія і гістарычныя. Я стала цікавіцца беларускімі традыцыямі, песнямі, фальклорам, літаратурай, гісторыяй. Мне стала вельмі цікава!

З беларускай мовай я адчуваю сваю еўрапейскасць. З ёй я роўная грамадзянам усіх іншых краін — палякам, чэхам, немцам, французам, расіянам. Без яе ж — мы залежныя і падначаленыя, нейкі прыдатак, нейкія "несапраўдныя"... Хто не хоча ведаць сваёй мовы, той, мяркую, не хоча жыць уласным самастойным жыццём, сваім розумам, а аддае перавагу утрыманству. Многія беларусы, выхаваныя ў савецкай сістэме, на жаль, часта застаюцца глухімі да ўсяго свайго, баяцца ведаць ці лянуюцца вывучыць забытую імі мову гэтай зямлі, сваіх продкаў.

Для мяне ж яна — гэта адыход ад падмен ды сурагатаў і вяртанне да свайго прыроднага слова, Богам дадзенага для сувязі з мінулым і будучыняй Бацькаўшчыны. Без гэтага цяжка знайсці свой шлях і сапраўдны сэнс свайго жыцця.

**Сымона ГАЙ,**
**мінчанка.**

З НАТУРЫ

# Баліць сэрца ад згубленай прыгажосці

Я, карэнная мінчанка (мне зараз 80 гадоў), памятаю яшчэ даваенны Мінск і тое наша жыццё. Але хачу падзяліцца тым, што мяне сёння ўражвае і выклікае часцей за ўсё адмоўныя эмоцыі.

Яшчэ летась можна было спакойна прайсці ў парк Чалюскінцаў (ён некалі называўся Цёмны Лес, дзе можна было назбіраць ягад і грыбоў), падыхаць свежым водарам, адчуць пах сасны, паслухаць птушак і проста адпачыць. Зараз жа тут усё больш — замест астраўка жывой прыроды ў горадзе — на кожнай вялікай ці малой алеі і сцежцы стаяць нейкія шапікі, часцей піўныя, розныя буцікі і г.д., а сасной нават і не пахне. У паветры смурод ад шашлыкоў, якія ў любы час гатуюцца ледзь не пад кожным дрэвам. Грукат і віскат сучаснай "музыкі" заглушаюць спевы птушак. А можа, яны тут больш не спяваюць і не жывуць? Ва ўсялякім разе цяпер нармальнаму, не ачмуранаму "цывілізацыяй" чалавеку адпачыць, спакойна падыхаць немагчыма. Божа, ды што ж гэта робіцца, каб увесь дзень за кожным дрэўцам скварчэлі шашлыкі і грукатала немаведама што? Няўжо некаму мала весялосці на розных святах і днях адпачынку?

Зараз пра другое. Калі ў маіх успамінах да вайны застаўся шматмоўны Мінск, дзе гучэла і беларуская, і руская, і яўрэйская, і польская, і нават татарская мовы, то пасля вайны ў асноўным адна — руская — запаланіла ўсё і ўсюды. Праўда, тады яшчэ некаторы час матчына мова зберагалася на вёсцы. А мы, гараджане, каб пацешыць душу, атрымаць асалоду ад беларускага слова, часта хадзілі ў Купалаўскі тэатр. Там было такое непаўторнае сузор'е вялікіх артыстаў!

Я рада, што цяпер будынак тэатра адрэстаўравалі проста выдатна, на мой погляд. Але ўмудрыліся пры гэтым і раней мізэрныя 400 глядацкіх месцаў паменшыць да 300! У галаве такое не ўкладваецца. Колькі ж часу спатрэбіцца, каб прыхільнікі нацыянальнага мастацтва змаглі ўбачыць доўгачаканую прэм'еру і тым болей — прычакаць новую? Зноў не на карысць беларушчыны...

Яшчэ адно назіранне, пра якое не магу маўчаць: гэта будынак, што перад цыркам закрыў і дзіцячы парк імя Горкага, і раку. Невядома чаму яго там паставілі. Цудоўны і прыгожы будынак цырка згубіўся на фоне велізарнага грувасткага гмаху, які разбурае цэласнасць і гарманічнасць гэтай часткі праспекта Незалежнасці. Пры гэтым Дзяржаўны цырк выглядае ўжо як не нешта велічнае і ўнушальнае, а нейкае маленькае шапіто...

Аж баліць сэрца ад загубленай прыгажосці. Няўжо кіраўнікам нашай сталіцы грошы зацьмілі розум? Ачомайцеся, хаця ўжо ў гэтым выпадку і позна. Але на будучае — думайце перад тым, як прыняць рашэнне, каб дапушчаныя глупствы не мазолілі вочы і не абражалі эстэтычныя густы і пачуцці сучаснікаў і будучых пакаленняў.

**Н.Е.ЛЮБОЦКАЯ,**
**пенсіянерка, у мінулым урач.**

*Мінск.*



**Шашлыкі ў модзе не толькі ў парку Чалюскінцаў.**

